Людзьмі звацца!
Янка Купала.

# СПРАВА

№ 10
Чэрвень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

Выдаецца з лютага 2012 г.

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## Гэта трэба жывым

Ураджэнцы вёскі Іванавічы Магілёўскага раёна куды толькі ні скардзіліся на тое, што ў апошнія гады немагчыма пад'ехаць да сельскіх могілак, якія знаходзіцца ў паўтары кіламетрах ад вёскі. Раней да яго пралягалала самая кароткая грунтавая дарога, пракладзеная па полі. Але потым дарогу пачалі араць падчас пасяўной.

На працягу двух гадоў доўжыцца перапіска людзей з інстанцыямі. Яшчэ ў снежні 2010 года старшыня праўлення СВК «Сухарэўскі» Мікалай Сцяпанаў адказваў у Магілёўскі аблвыканкам пасля тагачаснага звароту грамадзян: *«Поле, прилегающее к кладбищу в д.Ивановичи, засеяно в 2010 г. многолетними травами и распахиваться в ближайшие 4 - 5 лет не будет. В настоящее время по многолетним травам проложена дорога в две колеи».*

Старшыня Магілёўскага райвыканкама Дзмітрый Гобараў тады ж (10 снежня 2010 г.), рэагуючы на скаргу па пытанні ўладкавання пад'езда да могілак, у афіцыйным адказе пісаў: *«В дальнейшем данное поле будет использоваться СПК «Сухаревский» только под сенокос».*

У 2012 г. у аблвыканкам зноў паступіў зварот ураджэнцаў Іванавіч аб адсутнасці найкарацейшай дарогі да могілак. З райвыканкама людзям адказалі, што пад'езд абсталяваны з другога боку, дзе накаталі палявую дарогу. *«Кроме того, Сухаревским сельисполкомом в 2011 г. приняты меры по обустройству проезда к кладбищу через овраг (произведена укладка трубы с подсыпкой гравием)»,*-- паведамлялася ў рэагаванні на хадайніцтва.

Прынята казаць, што лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Таму адпраўляемся ў шлях.

Спачатку мы дабіраемся да павароту на дарогу, якая меркавалася ў адказе райвыканкама як *«подъезд с другой стороны, где накатана полевая дорога».* Шлях ўяўляе сабой дзве каляіны ў выбоінах, напоўненых вадою, а пасярэдзіне расце трава па пояс.

*«Угробім машыну»,* - рэзюмуе наш праважаты. Пры гэтым паказваючы бачнае ўдалечыні поле ўзаранай зямлі: *«Усё роўна вось гэтая дарога ўпіраецца ў раллю».*

Падарожжа па традыцыйнаму найкароткаму сельскаму палявому «тракту», па якім спрадвеку праводзілі памерлых у апошні шлях, аказваецца не з лёгкіх. Машыну пакідаем на асноўным участку шашы, вядучым да вёскі. Больш-меней ніштавата даходзім да вежы, якая засталася напамінам аб разбуранай ферме. Вакол расце высокая трава, а землі, дзе была МТФ, ніхто не імкнецца араць у адрозненне ад поля па суседству з могілкамі.

Перш чым звярнуць убок, для пераадолення травяных «джунгляў» прыходзіцца нацягваць гумавыя боты. Пасля зараснікаў закінутага луга ідзем праз пасевы яравых.

Вяскоўцы, што ідуць побач, распавядаюць аб сваіх дарагіх людзях, аб іх заслугах і аб абыякавасці уладаў, якія не жадаюць паглыбіцца ў чалавечую праблему. Распавядаюць, як сын прывёз з горада хаваць на малую радзіму маці. Дабраўшыся да перааранага поля - паехаў назад у Магілёў.

*-- У мінулым годзе на полі, па якім ідзем, расла кукуруза, - каментуюць людзі. -- Каб прабрацца праз зараснікі, прыходзілася зразаць іх нажом. Яе апрацоўвалі хімікатамі, таму пасля паходу на могілкі ўсё цела свярбела*

*-- Увосень бацьку здолелі паставіць помнік, таму што памёр Толік. Каб яго пахаваць, прракосы камбайнам рабілі.*

*-- А магіла майго бацькі асядае, трэба ставіць помнік. А як яго завезці на могілкі?*

Ідзем праз зараснікі, балансуючы на краі канавы з вадой. Той самай, пра якую паведамлялася ў адказе райвыканкама як пра месца, дзе праведзена падсыпка гравію. Тут жа і труба - даволі хісткае прыстасаванне для адводу вады, зусім не выконвае свайго прызначэння.

Далей рухаемся наперад па полі перад могілкамі, якое яшчэ ў 2010 г. абяцалі ў бліжэйшыя 4 - 5 гадоў не араць. Але на зямлі, набрынялым ад вільгаці, віднеюцца непрарослыя зерні кукурузы. Вакол могілак не ўдаецца ўбачыць прыкмет якой-небудзь дарогі - толькі разаранае поле...

Старшыня СВК «Сухарэўскі» Мікалай Сцяпанаў, з якім давялося пагутарыць па тэлефоне, паабяцаў на будучыню:

*-- Збяром збожжавыя. Не будзем там араць - і будзе дарога.*

Ураджэнцы вёскі Іванавічы, чакаюць не абяцанняў, а канкрэтных дзеянняў.

*Падрыхтаваў А. ДУБАЛОМАЎ*
Паводле газеты "МВ".

## Магілёўскіх казакоў стала больш

Беларускі казацкі полк з'явіўся яшчэ ў XVII стагоддзі, падчас руска-польскай вайны, і ўжо больш за 350 гадоў існуе казацтва на Беларусі. У 1654 г. цар Аляксей Міхайлавіч падпісаў указ аб стварэнні Чавускага і Магілёўскага казацкіх палкоў. У 1999 г. з'явілася Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Беларускае казацтва», членамі якога і з'яўляюцца ўсе цяперашнія казакі. Новых членаў у гэтае аб'яднанне і прынялі магілёўскія казакі 23 чэрвеня.



Магілёўская казацкая акруга з'явілася ў 2004 г., і на сённяшні дзень налічвае больш за 100 чалавек. У яе склад уваходзяць Бабруйскі і Асіповіцкі гарадскія і раённыя казачыя аддзелы, а таксама Магілёўскі аддзел.

Пасвячэнне ў казакі прайшло ў Храме Святых Царскіх пакутнікаў і навапакутнікаў XX стагоддзя. Для ўступлення ў казацтва трэба было зачытаць казачае слова, даць прысягу і прыняць дабраславенне - пацалаваць крыж і абраз. Акрамя таго, у гэты дзень прайшло пасвячэнне ў кадэты: чацвёра маладых хлопцаў таксама прынялі прысягу і атрымалі благаславенне.

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*
Паводле www.222.by.

## На заробкі !



Вось ужо больш за год Ларыса з суседняга дома не гуляе па вечарах з сынам. Некалі любімага Максіма пакінула на калісьці горача каханага мужа Ягора. Шмат гадоў сям'я жыла дружна, але небагата. Ларысе надакучыла безграшоўе. Завербавалася швачкай ў Маскву, адправілася папраўляць матэрыяльнае становішча. Зараз Ягор і Максім штодня ходзяць па старой алеі ўдваіх. Вочы ў абодвух сумныя-сумныя. Бо маці сямейства наведваецца ў Магілёў на пабыўку ўсё радзей і радзей - зусім ад родных адвыкла, адбілася. І не адна яна такая ...

Назіраю невясёлы малюначак з жыцця. З Магілёўскага чыгуначнага вакзалу адыходзіць чарговы цягнік на Расею. Жонкі са слязамі на вачах праводзяць мужоў на заробкі. Абдымаюць, зазіраюць ім у вочы, нібы не могуць адарвацца. Але вось заўважаю выключэнне з правілаў. Сімпатычная стройная бландынка ў куртцы-ветроўцы таксама моцна абдымае мужа. А затым садзіцца ў вагон, пакідаючы каханага на пероне. І той доўга махае рукой услед цягніку, суцяшаючы шморгаючую носам дачушку. Будзем спадзявацца, што ў іх усё будзе ў парадку. Але на душы ўсё роўна неспакойна ...

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*
Паводле газеты "СБ. Беларусь сегодня".

## Штрафы для бацькоў

Увосень бацькоў пачнуць штрафаваць за парушэнне дзецьмі "каменданцкай гадзіны".

Нагадаем, законапраект, які ўводзіць у Беларусі такія меры для падлеткаў, быў прыняты дэпутатамі яшчэ вясной.

Дакумент устанаўлівае абавязак бацькоў і апекуноў суправаджаць дзяцей, якім не споўнілася 16 гадоў, у перыяд з 11 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы па-за кватэр і дамоў. Калі падлеткі парушаць табу, расплачвацца будуць дарослыя. Адпаведныя змены і дапаўненні ў закон ўступяць у сілу 5 верасня гэтага года.

Бацькам, чые дзеці будуць затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі ноччу на вуліцы, пагражае папярэджанне або штраф да 2 базавых велічынь, калі парушэнне будзе здзейснена паўторна - да 5 базавых. Як паведамлялася раней, міліцыя паспрабуе не злоўжываць нормай. Перш чым даставіць падлетка ў сацыяльны прытулак, супрацоўнікі органаў унутраных спраў паспрабуюць звязацца з бацькамі.




Як кажуць спецыялісты, новаўвядзенне накіравана на зніжэнне дзіцячай злачыннасці і павінна настаўляць нядбайных бацькоў і маці. Ідэя караць дарослых рублём, дарэчы, у апошні час стала папулярнай. Так, нядаўна медыкі прапанавалі штрафаваць тых бацькоў, чые дзеці паляць.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# Пра мову і транслітэрацыю

Наяўнасць дзвюх дзяржаўных моў у краіне не можа не выклікаць вызначаных праблем у яе жыхароў. Як перакладаць назвы вуліц і вёсак? Як выкарыстоўваць транслітэрацыю пры перакладзе імя ў пашпарце? Напэўна многія не раз сутыкаліся з тым, што іх імёны ў афіцыйных дакументах скажаюць, а назвы вуліц не перакладзяць з беларускай на рускую, а проста карыстаюцца транслітарацыяй. Аб праблемах такога роду пагаварылі магілёўцы 11 чэрвеня на адным з мерапрыемстваў цыклу «Моўныя Сустрэчы". Мерапрыемства на гэты раз наведалі вядомыя філолагі, палітыкі і грамадскія дзеячы Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі.



# Кватэрнік у Палыкавічах

Кватэрныя канцэрты, або *«кватэрнікі»*, у Магілёве праходзяць досыць часта, аднак у асноўным на іх выступаюць малавядомыя выканаўцы - бо такія канцэрты даюць магчымасць аўтарам выступіць перад публікай у больш цеснай, амаль хатняй абстаноўцы, паспрабаваць свае сілы. Аднак 24 чэрвеня на кватэрніку, які прайшоў у вёсцы Палыкавічы Магілёўскага раёна, сабраліся вельмі цікавыя і ўжо даволі вядомыя аўтары. Перад магілёўцамі выступілі група «НеАўстралія», Вольга Ганакова, Аляксандр Мельнікаў, Віталь Рыжкоў і Цімафей Яравікоў.



*А.Мельнікаў і Ц.Яравікоў*



Спачатку дзея адбывалася ў хаце, а затым усе выбраліся на двор. І з надыходам цемры, калі канчаткова пахаладала, публіка і музыкі нарэшце разышліся па дамах.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*
Паводле www.222.by

# Самы бяспечны



Паводле дадзеных Беларускага нацыянальнага статыстычнага камітэта, у 2011 годзе на кожныя 10 000 беларусаў было зарэгістравана 139 злачынстваў - гэта ніжэй, чым у Расеі (168 злачынстваў на 10 000 насельніцтва), але вышэй, чым у Казахстане (125) і Украіне (114).

У межах адной дзяржавы ў залежнасці ад рэгіёна гэты паказчык можа быць ніжэй або вышэй. Так, самы высокі ўзровень злачыннасці ў мінулым годзе быў зарэгістраваны ў Бабруйскім раёне: ён больш чым у два разы перавышае сярэднія паказчыкі па рэспубліцы. Так, на кожныя 10 000 насельніцтва Бабруйскага раёна здзяйсняецца каля 300 злачынстваў - і іх колькасць расце ўжо трэці год запар. Справядлівасці дзеля, варта адзначыць, што сам Бабруйск, у гэтую сумную статыстыку асаблівага ўкладу не уносіць: тут рэгіструецца «усяго» парадку 145 злачынстваў на кожныя 10 000 чалавек. Другі па крымінальнасці ў Беларусі Аршанскі раён (269 злачынстваў на 10 000 чалавек). Акрамя Бабруйскага і Аршанскага раёнаў, адзнаку ў 200 злачынстваў на 10 000 чалавек пераадолела каля паловы беларускіх рэгіёнаў, сярод іх такія раёны Магілёўскай вобласці, як Асіповіцкі (202), Магілёўскі (211), Глускі (212).

У той жа час самым бяспечным абласным горадам у Беларусі можна з упэўненасцю назваць Магілёў: тут рэгіструецца ўсяго 99 выпадкаў парушэння закона на 10 000 чалавек - менш, чым у любым іншым абласным цэнтры. Да самых спакойных беларускіх рэгіёнаў адносяць Іванаўскі (71), Ашмянскі (73), Браслаўскі (76), Воранаўскі (76) і Навагрудскі (77) раёны.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# Крымінальны экспрэс



24 чэрвеня адбылося дарожна-транспартнае здарэнне са смяротным зыходам. 26-гадовы жыхар в.Буйнічы Магілёўскага раёна, кіруючы «Фольксвагенам», побач з в.Чорны Бор не абраў бяспечную хуткасць, з-за чаго з'ехаў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва. Гэта і стала прычынай узгарання аўтамабіля. На жаль, кіроўца не змог выбрацца з аўтамабіля і згарэў.

24 чэрвеня ў в.Селішча Магілёўскага раёна знойдзены труп 28-гадовага мужчыны. Магілёўскі раённы аддзел Следчага камітэта узбудзіў крымінальную справу па артыкуле «Забойства». Па падазрэнні ў злачынстве супрацоўнікі міліцыі затрымалі аднавяскоўца.

У выхадны дзень з раніцы з в.Галынец Магілёўскага раёна ў Магілёў выехалі бацька і двое яго сыноў, 30 і 25 гадоў. Кожны адпраўляўся ў дарогу, маючы намер вырашыць чыста жыццёвыя пытанні - нешта купіць і што трэба высветліць.

У абласным цэнтры галава сямейства і браты разышліся па загадзя вызначаных маршрутах. Месца сустрэчы не прызначалі і вяртацца ў родную вёску збіраліся калі ў каго атрымаецца, па меры выканання сваіх планаў.

Наколькі ўдалося ажыццявіць плануемае - невядома. Але, як паведамілі з кабінета прафілактыкі установы «Медыцынскі выцвярэзнік» УУС аблвыканкама, у нядзелю ўвечары да іх паступілі трое мужчын з аднолькавым прозвішчам, ураджэнцы адной вёскі, толькі рознага ўзросту. Раніцай наступнага дня высветлілася, што гэта бацька і сыны, якія потым доўга здзіўляліся, якім чынам яны ўсё ўтрох апынуліся ў такой установе. Ды і начлег на траіх абышоўся ім вельмі нятанна.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# Спаскі завулак вярнуў сваю назву

У першыню згадка аб Спаскай вуліцы ў Магілёве сустракаецца ў інвентары горада за 1604 г. Вуліца была названая так з-за драўлянай Спаскай царквы, пра існаванне якой вядома з 1478 г. Царква мела асаблівае значэнне для горада, паколькі Спас лічыўся заступнікам Магілёва.

Спаская была адна з цэнтральных вуліц Магілёва - яна знаходзілася побач з Гандлёвай плошчай (зараз Савецкая плошча) - адным з галоўных гарадскіх аб'ектаў. Цяпер Спаскай царквы няма, не захавалася і гістарычная назва вуліцы; больш за тое, доўгі час дадзены завулак і зусім быў без назвы. Аднак на апошнім пасяджэнні тапанімічнай камісіі, якая працуе пры Магілёўскім гарвыканкаме, было прынята рашэнне вярнуць завулку яго гістарычную назву: у хуткім часе на адным з будынкаў у раёне Ленінскай, 7 з'явіцца адпаведная таблічка.

Вяртанне беспадстаўна перайменаваных і часткова згубленых гістарычных найменняў геаграфічных аб'ектаў з'яўляецца прыярытэтнай задачай і перспектыўным напрамкам працы тапанімічнай камісіі.

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*
Фотаздымкі з калекцыі Давіда Лісоўскага.



*Імператар Мікалай II і афіцэры Стаўкі выходзяць пасля набажэнства са Спаскага сабора на Спаскую вуліцу. 1916 г.*



*Выгляд Спаскай вуліцы ў бок Спаскай царквы і Дняпра. Пачатак XX ст.*






☺ Калі ў УКАП «Вейна» будуць плаціць нармальную зарплату, а не 1 млн. на сям'ю з двума маленькімі дзецьмі?

☺ Цікава, ці даробяць у в.Нікалаеўка -1 асфальт? Ужо тры месяцы, як чакаем!

☺ Калі на Прыдняпроўскай птушкафабрыцы ў в.Раманавічы пачнуць своечасова выплачваць аліменты? У чэрвені атрымалі за красавік!

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 30.06.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

kamunikat «СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/